А. Змагар



# РЭПКА

Казачны Абразок



Лінц----------------1946

А. ЗМАГАР

# "Р Э П К А"

Казачны Абразок

--

Лінц----------1946

САМІ СВАЁЙ ГРАМАДОЮ
З КАЖНАЙ СПРАВІМСЯ БЯДОЮ

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Рэпка,
дзедка,
бабка,
унучка,
Жучка,
кошка,
мышка,
людзі.

Дзеючыя асобы дабраны паводля росту і адпаведна апрануты. Дзедка - больш высокі, бабка - крыху ніжэйшая і ўнучка - яшчэ ніжэйшая, апрануты ў сялянскую вопратку. Меншыя - Жучка і кошка і зусім маленькая мышка апрануты ў маскі, а да іх сукенак прыроблены хвосьцікі. Рэпка крыху меншая за бабку, апранута ў круглую, зробленую з кардону і дроту і абшытую цёмна-чырвоным матар-ялам, сукенку. Ад шыі і галавы ўгору прыроблены вялікія зялёныя лісьця. Людзі апрануты ў сялянскую вопратку.

Дзея адбываецца ў агародзе. Налева - градка з гароднінай. За ёю, з правага боку, расьце рэпка. Далей - плот і варотцы.

ЗЬЯВА І

/Дзедка з усяе сілы цягне рэпку. Зь яго твару цурком льецца пот. Дзедка выпростваецца, рукавом выцірае кроплі поту і глыбока ўздыхае/.

Дзедка: Пасадзіў я ўвесну рэпку
Ды й прашу у Бога:
Заглянi на поле ўлетку,
Не пакінь старога!
Каб людзям расла на дзіва
Рэпачка прыгожа,
Каб былі мы ўсе шчасьліва,
Памажы нам, Божа!
І ўрадзілася-ж "навіна",
Проста, як на славу.
Не па днях, а па гадзінах
Вырасла забава.
І цяпер лісьцём зялёным
Ўсю граду пакрыла.
Ва ўсе бокі кругла, роўна,
Паглядзець аж міла.
Ужо вырасла, як хата,
Засланіла сонца.
Будзе зімачка багата,
Радасна бясконца.

/З-за плоту відны сяляне, якія дзівяцца на рэпку. Дзедка паказвае рукою на іх/.

Аж людзей зьбірае гурбы.
Трэба вырваць, мусіць.

/Прабуе рваць, але, крыху патузаўшыся, глядзіць на яе і зноў выцірае з твару пот/.

Але, мабыць, мала бульбы
Зьеў, бо штось ня зрушыць.
Толькі пот, як град, ліецЯк схвачу ў вахапку, /ца,
А яна й не зварухнецца.
Трэба клікнуць бабку.
Бабка, дзе ты? Адгукніся!
Памажы мне, дзедку!
Ў агарод хутчэй імчыся!
Ўжо пара рваць рэпку.

ЗЬЯВА 2

/Бабка, кульгаючы, бяжыць у варотцы/.

Бабка: Ну, яшчэ што за турботы?
Што тут за парадкі?
Я ня скончыла работы,
Зашывала латкі,
Ды пачуўшы крык, што сілы
Я імчуся ў дзьверы,
Толькі мешалку схапіла,
Як на дзіка зьвера;
Праз парог-жа як грымнула
Ды яшчэ на палена,
Так што і нагу зьвіхнула
Й пабіла калена.

/Рукою паказвае на калена/.

Дзедка: Паглядзі на нашу рэпку:
Вырасла, здаецца.

Бабка: Ну і крык падняў ты,
Аж зямля трасецца./дзедка,

Дзедка: Я цягну яе з гадзіну.
І засела-ж крэпка.
Ну, цягні мяне за сьпіну!
Мусім вырваць рэпку.

/Дзедка бярэцца за рэпку, а бабка за дзедку і цягнуць з усяе сілы/.

Бабка: Я цягну, як маю сілы,
Аж прыпол дзярэцца.

Дзедка: Мо намова? Божа мілы!
Штось не паддаецца.

Бабка: Мусіць, трэба клікнуць
Дуньку,
Бо ня даць нам рады.

/Голасна гукае/.

Ўнучка! Мілая пястунька,
Падбяжы на грады.

ЗЬЯВА 3

/Бяжыць унучка/.

Унучка: Вось і я. Чаго гукалі?

Бабка: Пасьпяшайся, дзеткі!
Мы ужо зусім прысталі,
Памажы рваць рэпку!

Дзедка: Менш гаворкі - болей
справы,
Дык цягні-ж за бабку!
Ну,яшчэ раз! Разам!Жва-
ва!

/Усе цягнуць зь вялікаю натугаю,
рэпка крышку заварушылася, і ў
дзеда скідаецца шапка/.

Ух! Упала шапка.

Бабка: Ух! Ух! Ух! Аж косьці
гнуцца!
Унучка: Ух! Ух! Ух! Як цяжка!

Дзедка: Ух! Як кроплі поту
льлюцца!

Аж на сэрцы важка.
Нас траіх тут малавата,
Трэба дапамогі.

Бабка: Жучка бегае за хатай,
Брэша ля дарогі.

Унучка: Жучка! Цю! Ляці стралою!
Як маланка ймчыся!

ЗЬЯВА 4

/Хутка бяжыць Жучка і віляе хвастом/.

Жучка: Гаў! Гаў! Гаў! Я тут!
З табою!
Вы чаго сышліся?

Унучка: Жучка! Слаўная, зірні ты,
Як мы цягнем крэпка.
Дзёдка потам ўвесь аблі-
Ды ня вырваць рэпку./ты

Жучка: Можа нам пазваць суседа?
Нас тут малавата.

Дзедка: Не! Ня трэба дармаеда.
Лепш сваёю хатай.
Жучка, ты цягні за ўнуч-
А яна - за бабку, /ку,
Бабка возьмецца за дзед-
Ну, а я за рэпку! /ку,
Як пацягнем мы ўсе разам,
Выцягнем адразу!

/Усе дружна цягнуць/.

Бабка: Штось яна не паддаецца,
Й сіла ўжо вяліка.

Хто йшчэ ў хаце?

Унучка: Кошка, здэцца.

Дзедка: Трэ й яе паклікаць.

Унучка: Кошка! Кошачка! Кацi!
Ты ляжыш на печы.
У агарод да нас ляцi!
Досыць грэць ўсё плечы.

ЗЬЯВА 5

/Кошка, выгінаючы дугою сьпіну, скача ў агарод/.

Кошка: Мяў! Мяў! Мяу! Што за
сходка?
Штосьці недэрэчы,
Калі, нават, шэру котку
Выгукнулі зь печы.

Жучка: Ґаў! Ґаў! Ґаў! Глядзі,
як крэпка
Карані ўрасьліся.
Памажы нам вырваць рэпку!
За мяне дзяржыся!

Дзедка: Трэ хутчэй канчаць работу.
Вы чаго паснулі?
Гэй, да працы! Усе з ахвотай!
Ну, яшчэ! Рванулі!

Бабка: Я цягну, што сілы маю.

Унучка: Дух аж выпірае!

Жучка: Я таксама, гаў-гаў-гау!

Кошка: І я, мяў-мяў-мяу!

/Усе дружна цягнуць рэпку. Рэп-

ка хістаецца ва ўсе бакі, але
ад зямлі не адрываецца/.

Дзедка: Ну і рэпка! Вось дык
Сілы не хапае! /рэпка!
І ўраслася-ж ў землю
Аж дух заціхае!/крэпка:

Кошка: Дык яшчэ у хаце мышка
Пад падлогай скача.
У яе хоць сілы крышку,
Й часта яна плача,
Але ў гурце з намі,можа,
Штосьці дапаможа.

Дзедка: Дык гукай яе на поле -
Будзе сілы болей.
/мяу.

Кошка: Мышка! Мышка! Мяў-мяў-
Сьмела лезь із норкі!
Мы цябе даўно чакаем
Тутака знадворку.
Ты ня бойся нас нікога,
Будзь нам дапамогай!

ЗЬЯВА 6

/Паказваецца мышка. Азіраючыся наўкола, яна нясьмела бяжыць у агарод/.

Мышка: Што за крык нясецца з по-
Ці ня даць мне маху?/ля?
Хто заве мяне на волю?
Я дрыжу ад страху.

Унучка: Мышка,шэрая, бяжы,
Вырваць рэпку памажы!

Кошка: Мы цяпер адна сям'я.
Не крану цябе больш я.

Дзедка: Ты,бабуся, ня хістайся!
За мяне мацней трымайся!
За цябе маленька ўнучка,
А за ўнучку - чорна Жучка,
А за Жучку - кошка жвава,
А за кошку - мыш рухава.
Як пацягнем не разам, -
Пэўна, выцягнем адразу.
Ну,ўсе разам! Яшчэ мах!
Усе: Наша рэпка трах-тах-тах.

/Вырываюць рэпку і разам зь ёю падаюць/.

/Устаюць і становяцца тварам да гледачоў/.

Усе: Калі ў хаце дружна жыць,
Жыць бяз спрэчак, зрады,
Дык ня трэ ў чужых прасіць
Апякунскай рады:
Самі сваёй грамадою
З кажнай справімся бядою.

/Заслона/



ВЕНА
9-11 сьнежня 1944г